СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 8.15, 15.49, 7.34;
Віцебск — 8.13, 15.31, 7.19;
Магілёў — 8.05, 15.38, 7.33;
Гомель — 7.54, 15.43, 7.49;
Гродна — 8.29, 16.05, 7.36;
Брэст — 8.22, 16.14, 7.52.
МЕСЯЦ:
Поўня 10 снежня.
ІМЯНІНЫ:
Юр'я;
Леакадзіі, Вяслава

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

9 СНЕЖНЯ 1992 г.
серада, № 244 (22022)

## РОЗГАЛАС

### СТО І АДЗІН ГОД ЗОРЦЫ МАКСІМА

**9 снежня, ці 27 лістапада па старому стылю, 1891 года ў Мінску нарадзіўся Максім Багдановіч. Помнік паэту стаіць зусім непадалёку ад таго месца, дзе знаходзіўся той дом па былой Аляксандраўскай вуліцы. Спадзяёмся, што сёння мінчукі не забудуцца прыйсці да яго з кветкамі.**

**А ў Гродне, дзе прайшло паэтава маленства, сёння адкрываецца конкурс юных кампазітараў «Надзея-92», прысвечаны М. Багдановічу. У ім бяруць удзел вучні музычных школ, ліцэяў, вучылішчаў. Зусім верагодна, што прагучыць новая «Зорка Венера» або «Вераніка»: да конкурсу многія адораныя дзеці напісалі свае творы на вершы Багдановіча. Пераможцаў чакаюць прызы Міністэрства культуры, Фонду культуры і імянныя — ад вядомых беларускіх кампазітараў.**

### Зварот генеральнага сакратара ААН Бутраса Галі з выпадку Дня правоў чалавека

Сорак чатыры гады таму назад Арганізацыя Аб'яднаных Нацый прыняла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека. Гэта падзея аказала глыбокі ўплыў на гісторыю чалавецтва.

Дэкларацыя стала краевугольным каменем міжнароднай сістэмы. Парушэнні пратакаліруюцца, скаргі маюць адрас, і дзяржавы адчуваюць адказнасць за рэагаванне на іх. Міжнародныя дагаворы зрабілі многія палажэнні дэкларацыі сувязным звяном міжнароднага права.

Нягледзячы на гэтыя дасягненні, узрастанне пагрозы «халоднай вайны» адкрыла новыя крыніцы страху і жаху. Успышкі парушэння правоў чалавека ўзнікаюць у любых частках зямнога шара.

1993 год будзе рашаючым у барацьбе за правы чалавека. Ён аб'яўлены Міжнародным годам карэнных народнасцей, тых, чые правы парушаюцца асабліва часта. А ў чэрвені 1993 года ў Вене адбудзецца Сусветная канферэнцыя па правах чалавека.

Асноўным крытэрыем будзе

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

### А НАШЧАДКІ СУСТРЭЛІСЯ ЯК СЯБРЫ

**У вёсцы Студзянка, што ў Барысаўскім раёне, адбыліся мерапрыемствы, прысвечаныя падзеі 180-гадовай даўнасці — бітве на Бярэзіне. Былі дэлегацыі з Расіі, Беларусі, ад французскай грамадскасці, пасольства Французскай Рэспублікі. На месцы, дзе адбывалася пераправа напалеонаўскіх войск праз Бярэзіну і дзе непасрэдна сышліся дзве магутнейшыя ў тагачаснай Еўропе арміі, устаноўлены і асвячоны святарамі памятны знак, увенчаны крыжам. Гэта — памяць тым дзесяткам тысяч загінуўшых на берагах невялікай рэчкі французам, рускім, палякам, беларусам, іспанцам, украінцам, імёны многіх з якіх сёння ўжо не ўстанавіць. Адбылася таксама тэатралізаванае прадстаўленне, якое сімвалізавала тыя падзеі, і салют з гармат узору 1812 года.**

# МЫ НЕ КІТАЙЦЫ. У НАС ЗОН НЕ БУДЗЕ

**Беларускі парламент учора адхіліў законапраект «Аб свабодных эканамічных зонах», які быў прадстаўлены на першае чытанне Саветам Міністраў. Пасля спынення прыватызацыі гэта, бадай, самы адчувальны ўдар Вярхоўнага Савета па планах урада.**

Учарашні дзень дэпутаты пачалі мінутай маўчання, ушанаваўшы памяць памершага Мікалая Іванавіча Ігнатовіча.

Прыступіўшы потым да звычайнай будзённай працы, яны вярнуліся да законапраекта «Аб асновах дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі». Праект гэты, дарэчы, ужо не першы раз прадстаўляецца сесіі намеснікам старшыні адпаведнай парламенцкай камісіі Уладзімірам Заблоцкім.

Трэба сказаць, што і на гэты раз яго чакаў той жа самы нешчаслівы лёс — законапраект быў адпраўлены на дапрацоўку.

Але галоўныя і, можна сказаць, у нейкім сэнсе сенсацыйныя падзеі першай палавіны ўчарашняга дня адбыліся пры першым чытанні законапраекта «Аб свабодных эканамічных зонах». Спачатку ўсё ішло звычайным мерным шляхам: старшыня Дзяржкамітэта па знешнеэканамічных сувязях Уладзімір Радкевіч, спасылаючыся ў асноўным на кітайскі вопыт, маляваў шырокія перспектывы стварэння свабодных эканамічных зон (СЭЗ), вялікага прытоку валютных паступленняў у бюджэт і г. д. Падтрымаў яго і намеснік старшыні Камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях Іван Цярэшка. Выступіўшыя далей дэпутаты ішлі ў тым жа рэчышчы, нямала гаворачы аб замежных інвестыцыях, гарантыях для заходніх бізнесменаў, магутнай плыні танных тавараў, гатовых хлынуць на Беларусь. Мне асабіста, шчыра кажучы, цікава было назіраць, як гэтыя, здаецца, звышпрагрэсіўныя і суперрынaчныя падыходы адстойвалі прадстаўнікі той самай большасці, якія пры абмеркаванні, напрыклад, Канстытуцыі, патрабавалі замацаваць сацыялістычны лад і абарону ўсіх магчымых правоў працоўных. Але вось у адладжанай музыцы дысанансам прагучала выступленне дэпутата Уладзіміра Новіка, які прапанаваў распрацоўшчыкам спачатку падрыхтаваць сацыяльна-эканамічны прагноз і аналіз магчымых наступстваў прыняцця Закона аб СЭЗ. А дэпутат Уладзімір Папкоў якраз і паспрабаваў са свайго пункту гледжання зрабіць такі аналіз. На яго думку, СЭЗы створаць шмат адмоўных працэсаў: адток капіталаў у СЭЗ з іншых рэгіёнаў Беларусі, адсюль заняпад там вытворчасці; узрост эканамічнай злачыннасці, рост сацыяльнай напружанасці і г. д. Але яго выступленне яшчэ не было пераломным — вядома, як нашы дэпутаты часам ставяцца да выступленняў прадстаўнікоў апазіцыі. Сапраўдная змена настрою ў зале пасяджэнняў адчулася тады, калі супраць закона пачалі выступаць «цэнтрысты» — Лукашэнка, Грыбанаў.

Матывы іх былі ў асноўным наступныя: у СЭЗе будзе свая мытня, граніцы, свае законы, гэта фактычна дзяржава ў дзяржаве. (Пра гэта, дарэчы, Ул. Радкевіч не гаварыў.) Калі ў адной палавіны насельніцтва будзе сваё жыццё, а ў другой — сваё, з'явіцца лішні фактар палітычнай нестабільнасці. Мы не кітайцы, якіх больш мільярда; Беларусь — той востраў, які трэба развіваць цалкам, а не часткамі.

І хаця нават Старшыня Вярхоўнага Савета выступіў у абарону законапраекта, аргументуючы гэта тым, што паводле яго трэцяга артыкула, СЭЗ уводзіцца толькі рашэннем Вярхоўнага Савета, праект быў адхілены. Рызыкну сцвярджаць — з-за недаверу часткі дэпутатаў да нашай выканаўчай улады.

Відавочна такая тэндэнцыя: дэпутаты баяцца прымаць можа і нядрэнныя, але недасканалыя законы, бо не ведаюць, як іх захоча выконваць урад, і, відаць, лічаць так: няма закона — няма праблемы.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ.**

## РАДЫЁ ФАКТ

**На запрашэнню начальніка штаба Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь генерал-маёра Мікалая Чуркіна ў Мінску знаходзіцца з рабочым візітам ФРАНЦУЗСКАЯ ВАЕННАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ. Яе ўзначальвае намеснік начальніка ўпраўлення знешніх сувязей міністэрства абароны Францыі капітан першага рангу Рыверон. Асноўная мэта візіту — абмен вопытам ваеннага будаўніцтва, знаёмства з аператыўнай і баявой падрыхтоўкай і перападрыхтоўкай афіцэраў, якія звальняюцца ў запас, вывучэнне асноўных законаў Рэспублікі Беларусь па ваенных пытаннях.**

***

**«ЗЕРНЕ ЗМЕН» — ТАКУЮ НАЗВУ АТРЫМАЛА ВЫСТАВА, падрыхтаваная пасольствам Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь з нагоды пяцісотгоддзя адкрыцця Амерыкі і першага плавання Калумба. Першымі наведвальнікамі выставы сталі студэнты і выкладчыкі Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў, дзе яна пачынае работу.**

***

**Вялікую цікавасць у дзелавых людзей дзяржаўнага і прыватнага сектараў эканомікі, у гандлёвых работнікаў выклікае міжнародны кірмаш «УСХОД—ЗАХАД — ПОЎНАЧ—ПОЎДЗЕНЬ», які адкрыўся ў Мінску ў выставачным комплексе «Мінскэкспа».**

**Акрамя краін СНГ і Балтыі, на кірмашы прадстаўляюць прадукцыю Індыя, Польшча, Аўстрыя, Германія, Фінляндыя, Ганконг, Францыя і Югаславія.**

***

**ДА УВАГІ ТЫХ, ХТО ГЛЯДЗЕЎ ПРА МАРЫЯНУ. У працяг гэтага мексіканскага тэлесерыяла беларускі рэжысёр Бахціяр Бахціяраў зняў камедыю. У ролі Рамоны — Стэфанія Станюта, дона Альберта — Мікалай Яроменка, Луіса Альберта іграе Яўген Крыжаноўскі, Марыяну — Тамара Сілецкая. Застаецца сказаць, што фільм мае назву «Дом, дзе плачуць багатыя».**

**Чакаем прэм'еру, бо вельмі сумна стала без Марыяны, нават беларускай.**



Маляваў Віктар ДУБОВІК.

СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «ЗВЯЗДЫ»

# «Не трэба складваць усе яйкі ў адзін кошык»

**Намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхаіл ДЗЯМЧУК адказвае на пытанні карэспандэнта «Звязды».**

**— Міхаіл Іванавіч, ці не здаецца вам пасля вашай паездкі ў Германію і нядаўняга візіту ў Кітай, што мы пакуль што толькі знаёмімся з цывілізаваным светам, і пры гэтым даволі нясмела?**

— Па-першае, пачынаць усё роўна трэба са знаёмства. Па-другое, ужо можна падсумаваць нейкія і канкрэтныя вынікі такіх візітаў. Паездкі ў многія еўрапейскія краіны далі нам з боку Еўрапейскага супольніцтва амаль 20 мільёнаў долараў тэхнічнай дапамогі на станаўленне і развіццё праграм у галіне канверсіі прадпрыемстваў, малога і сярэдняга бізнесу, банкаўскай сістэмы, геапалітыкі і транспарту, а таксама энергетыкі.

Подступы да ўступлення ў Еўропу ў нас ёсць. Гаварыць, што машына ўсталявання цесных сувязей з еўрапейскімі краінамі працуе ўхаластую — зусім неправамерна. Але глядзець толькі ў бок дзяржаў з цывілізаванай эканомікай, спрабаваць скапіраваць эканамічную мадэль гэтых краін таксама будзе няправільна. У нас свая спецыфіка развіцця, свой пераходны перыяд. Нам варта больш уважліва шукаць краіны з добрай пераходнай (менавіта пераходнай) эканамічнай мадэллю. Нам трэба ўважліва глядзець на заходні пояс (Польшча, Венгрыя, Чэха-Славакія і інш.) пры стварэнні ўласнай эканомікі і не абмінаць увагай Усход, у прыватнасці Кітай, развіццё якога ў многіх накірунках для нас цяперашніх з'яўляецца вельмі і вельмі паказальным.

Трэба адзначыць, што гэта другі мой візіт у Кітай. Першы быў у 1989 годзе, адразу пасля вядомых падзей на плошчы Ціоньаньмэнь. Гэта быў крызіс, і перш за ўсё крызіс у палітыцы. Што зараз я ўбачыў? Многае змянілася, і самае галоўнае, як мне здаецца, Кітай здолеў адмовіцца ў многім ад палітычных догмаў на карысць эканомікі. У краіне ёсць адчуванне стабільнасці. Тое, чаго вельмі не хапае ўсім рэспублікам былога Саюза, у тым ліку і нам.

Стабільнасць дасягнута не як самамэта, а як фон, на якім упэўненымі крокамі ствараецца новая эканоміка, праходзяць станаўленне рыначныя адносіны. За апошнія гады значна ўзмацнеў экспартны патэнцыял Кітая, чаму найперш садзейнічалі свабодныя зоны. За восем гадоў апошнія дасягнулі такога ўзроўню, што могуць паспрачацца па сваіх эканамічных паказчыках з развітымі краінамі свету. Для нас кітайскія свабодныя зоны — лабараторыі, дзе ствараецца гэта самая новая эканоміка. Ёсць гарады — свабодныя зоны, ёсць раёны гарадоў, ёсць цэлыя тэрыторыі, але, вядома, гэта невялікія плошчы ў параўнанні з вялікім Кітаем. Гэта важна падкрэсліць у сувязі з тым, што ёсць у нас думкі і прапановы зрабіць усю Беларусь свабоднай зонай. Вопыт Кітая — вучыць трэба пачынаць з невялікага, з гарадоў і раёнаў, якія найбольш падрыхтаваны да гэтага.

**— І адкуль жа трэба пачынаць свабодныя зоны ў нашай рэспубліцы?**

— Трэба спачатку прыняць аб іх закон. А потым думаць, перш за ўсё, аб тэхналогіі ўвядзення праз гэтыя зоны замежных інвестыцый і г. д. Свабодная зона — не самамэта, гэта маленькая мадэль нашага гра-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

### ...ІХ БРАНЯПОЕЗД СТАІЦЬ НА ЗАПАСНЫМ ПУЦІ?

**У Брэсце адбылася ўстаноўчая канферэнцыя камуністаў вобласці. Створаны абком з 21 члена, які ўзначаліў Павел Дубіна, апошні першы сакратар абкома КПБ. Партыйныя ячэйкі да сённяшняга дня не ўзноўлены толькі ў Брэсцкім, Іванаўскім і Жабінкаўскім раёнах вобласці.**

**БелаПАН.**

### НАШЫХ БІЗНЕСМЕНАЎ «КУЮЦЬ» У ТАЙВАНІ

Усё часцей маладых беларускіх прадпрымальнікаў можна сустрэць у развітых заходніх краінах. Вось і цяпер рыхтуюцца выехаць за мяжу дзве чарговыя групы пачынаючых бізнесменаў. На гэты раз яны бясплатна(!) пройдуць стажыроўку ў Італіі і Тайвані, дзе будуць вывучаць вопыт арганізацыі малога і сярэдняга бізнесу. Навучанне бяруцца аплаціць дзелавыя колы гэтых дзвюх краін.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**



# ПАСТАНОВА

*ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ ПА ВЫБАРАХ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 7 СНЕЖНЯ 1992 ГОДА*

**АБ ПРАВЯДЗЕННІ ПАЎТОРНЫХ ВЫБАРАЎ НАРОДНАГА ДЭПУТАТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ГОМЕЛЬСКАЙ — ЧЫРВОНАКАСТРЫЧНІЦКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУЗЕ № 188**

У адпаведнасці з патрабаваннямі артыкула 57 Закона «Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь» (у рэдакцыі Закона Рэспублікі Беларусь ад 21 снежня 1990 г.) Цэнтральная камісія па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Даручыць акруговай выбарчай камісіі Гомельскай — Чырвонакастрычніцкай выбарчай акругі № 188 правесці ў выбарчай акрузе паўторныя выбары народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь 7 сакавіка 1993 года.

2. Ажыццяўленне перадвыбарных мерапрыемстваў пры правядзенні паўторных выбараў народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь па названай выбарчай акрузе праводзіцца ў парадку і ў тэрміны, прадугледжаныя Законам «Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь».

Галасаванне праводзіцца на тых жа выбарчых участках, з 6 да 22 гадзін, па спісах выбаршчыкаў, удакладненых напярэдадні правядзення паўторных выбараў. Пры правядзенні паўторных выбараў у спісы выбаршчыкаў дадаткова ўключаюцца грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія дасягнулі да дня або ў дзень выбараў 18 гадоў, пастаянна пражываюць на тэрыторыі дадзенай выбарчай акругі; а таксама тыя, хто прыехаў на пастаяннае жыхарства. Падставай для адзнакі ў спісе выбаршчыкаў аб выбыцці выбаршчыкаў у перыяд паміж агульнымі і паўторнымі выбарамі з'яўляецца: смерць; пераезд на іншае пастаяннае месца жыхарства; прызыў у войска з праходжаннем службы за межамі ранейшага месца жыхарства; змяшчэнне па прыгавору суда ў месца пазбаўлення волі або выбранне меры стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай у выпадку, устаноўленым крымінальна-працэсуальным заканадаўствам, выезд у працяглую камандзіроўку. У іншых выпадках участковая выбарчая камісія можа зрабіць адзнаку ў спісе аб выбыцці выбаршчыка, калі ёй загадзя па яго пісьмовай заяве стала вядома, што выбаршчык у сілу ўважлівых прычын у дзень выбараў будзе знаходзіцца за межамі месца галасавання.

**Старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь А. АБРАМОВІЧ.**

**Сакратар Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь І. ЛІХАЧ.**

ЗА КУЛІСАМІ РАБОТЫ СПЕЦСЛУЖБАЎ

# КДБ—ГУПВ: узаемадзеянне расшыраецца

Аперацыю, праведзеную днямі Камітэтам дзяржаўнай бяспекі і Галоўным упраўленнем пагранічных войск, без перабольшання можна назваць унікальнай. Работнікамі гэтых двух рэспубліканскіх ведамстваў спынена спроба нелегальнага правозу па падробленых візах у Германію трыццаці грамадзян азіяцкага рэгіёна. Затрыманы 27 пакістанцаў і 3 індыйцы, а таксама пяцёра арганізатараў гэтай акцыі — таксама грамадзяне Індыі і Пакістана.

Высветлілася, што арганізатары прыбылі ў сталіцу Беларусі яшчэ ў верасні так сказаць, для вывучэння тактычнай абстаноўкі. У першую чаргу іх цікавіла сістэма пропуску пасажыраў праз пагранічна-пашпартны кантроль і міжнародны сектар аэрапорта «Мінск-2». Разлік іх быў просты — за валюту падкупіць службовых асоб АКПП і аэрапорта і бесперашкодна ажыццявіць свой план. Такія «дробязі», як «пачуццё абавязку», «патрыятызм» нашых людзей, мафіёзі ў разлік не бралі. Аказалася, дарэмна. Фантастычная па нашых мерках сума — 16 тысяч долараў — не змагла «адкрыць граніцу».

Выдатна праведзеная аперацыя магла б стаць сцэнарыем для захапляльнага дэтэктыва ці трылера. Напэўна, нават масцітыя галівудскія прадзюсеры пазайздросцілі б ліха закручанаму сюжэту і прафесіяналізму галоўных герояў. Не буду апісваць усіх перыпетый гэтай аперацыі, тым больш, што многае складае прафесіянальную тайну. Аперацыя прайшла паспяхова, спроба арганізацыі пастаяннага канала нелегальнага перакідвання людзей праз тэрыторыю Беларусі праваліл ася. Валюта, якую парушальнікі граніцы пры затрыманні выкінулі, пойдзе ў даход дзяржавы. Па цяперашняму курсу гэта ні многа-ні мала — шэсць з лішнім мільёнаў рублёў. Затрыманыя з удзелам прадстаўнікоў АВІРа МУС дэпартаваны ў пасольствы Індыі і Пакістана ў Маскве.

Як паведамілі ў Галоў-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# Новыя героі для «Лысай гары»?

**Адбылося пленарнае пасяджэнне Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, журналістыкі, мастацтва і архітэктуры. Названы імёны новых прэтэндэнтаў на пачэсныя і высокія ўзнагароды.**

Старажылы літаратуры і мастацтва сцвярджаюць, што раней на пасяджэннях такога шаноўнага сходу «пытанні» выраашаліся надзвычай «цікава»... Цікава ў тым сэнсе, што, як пісаў Вядзьмак Лысагорскі ў сваім бессмяротным «Сказе пра Лысую гару», было

Наогул, з прэміямі туга —
Дайсці няпроста да вянца:
Па зачараванаму кругу
Яны ўсе ходзяць без канца.
Пакуль разы са два, не
меней,
Абыдуць цалкам гэты круг—
Дык будзь ты, Грышка,
тройчы геній —
Не дачакаўшы, спусціш дух.

І сапраўды, «спускалі дух»... Так і не стаў ні лаўрэатам, ні тым больш, народным наш выдатны майстар Уладзімір Караткевіч, ды і «Грышка» — Рыгор Барадулін — толькі нядаўна пачаў збіраць даўно заслужаныя званні ды ўзнагароды...

Але гэта так сабе — прэлюдыя. Цяпер іншы час, які ў працяг «Сказа пра Лысую гару» ўвойдзе, несумненна, з новымі фарбамі, адценнямі, дэталямі, параўнаннямі і г. д., і да т. п. Дзякаваць Богу, стварыць той працяг будзе каму: у Камітэт па прэміях цяперашняга склікання ўваходзяць не толькі самыя знакамітыя майстры слова, а і вострыя, трапныя на язык, дасціпныя жартаўнікі — летапісцы: Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, сам старшыня Камітэта Ніл Гілевіч... Ды і пагалоска і пра само пасяджэнне, і пра вынікі яго пойдзе, несумненна, вялікая і гучная.

Парадак жа на ім панаваў поўны, настрой і тон былі дзелавыя і зацікаўленыя. Яшчэ б: рэй вялі **спецыялісты,** у ведах, ацэнках і кампетэнтнасці якіх сумнявацца зусім не даводзіцца. Разумна, аргументавана і нярэдка ўзнёсла казалі пра сваіх калег па літаратурнаму цэху Іван Шамякін і Янка Брыль, Ніл Гілевіч і Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Калеснік і Аляксей Дудараў; пра прэтэндэнта на прэмію ў галіне журналістыкі — Жанна Ліцвіна і Аляксандр Лукашук; а пра саіскальнікаў тытулаў па раздзелу музыкі, у галіне тэатра, кіно, тэлебачання — Міхась Казінец і Дзмітрый Смольскі, Міхась Дрынеўскі і Юрый Гільдзюк, Міхась Клебановіч і Віктар Дашук, Расціслаў Янкоўскі і Галіна Куляшова, Васіль Быкаў і Генрых Далідовіч... Не засталіся без увагі і лепшыя з лепшых у выяўленчым мастацтве: Юрый Карачун, Гаўрыла Вашчанка, Генадзь Буралкін адрэкамендавалі сваіх калег як самых сапраўдных майстроў.

А потым было галасаванне: як і належыць, тайнае — кожны з членаў Камітэта раіўся са сваім сумленнем і толькі сумленнем. У выніку прэтэндэнтамі на Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь названы: у галіне літаратуры — Сяргей Законнікаў, Алесь Звонак, Васіль Сёмуха, Алесь Жук, Яраслаў Пархута, Мікола Ермаловіч; у галіне журналістыкі — Аляксандр Уліцёнак; у галіне музыкі — Галіна Гарэлава; у галіне тэатра, кіно і тэлебачання — спектакль «Тутэйшыя» па п'есе Янкі Купалы ў пастаноўцы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы; у галіне выяўленчага мастацтва — Эдуард Агуновіч і Мікалай Селяшчук.

Камітэт сваю справу зрабіў. Так ці не — ацэняць гісторыкі і даследчыкі. А канчатковае рашэнне прымуць Вярхоўны Савет і ўрад Рэспублікі Беларусь, якім вынікі работы Камітэта па Дзяржаўных прэміях прадстаўлены на зацвярджэнне.

**Анатоль МЯСНІКОЎ, член Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь.**

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# Салодкі агурок з горкім прысмакам

**АГАРОДНІЦТВА І САДОЎНІЦТВА АПЫНУЛІСЯ Ў КРЫЗІСНЫМ СТАНОВІШЧЫ. ЦІ ДАПАМОЖА ЎРАД РЭСПУБЛІКІ ВЫВЕСЦІ ІХ З ТУПІКА?**

**«Ведаеце, каб не свой садовы ўчастак, то цяжка ўявіць, як можна сёння было б пражыць». Такія шчырыя, з налётам безвыходнасці выказванні даволі часта зараз даводзіцца чуць ад знаёмых, у доўгіх магазінных чэргах, чытаць у пісьмах рэдакцыйнай пошты.**

**Пакупнікі бядуюць, скардзяцца на дарагоўлю вітамінннай прадукцыі. Значыць, вытворцы яе ў яўным выйгрышы—вунь як падскочыла цана на іх тавар. Не, высвятляецца, яны таксама ў незайздросным, нават крытычным становішчы. Чаму, у чым прычына?**

**На гэтыя і іншыя пытанні па нашай просьбе адказвае старшыня аб'яднання «Мінскаблплодаагароднінагас», кандыдат эканамічных навук Віктар КАЗЕКА.**

**— Спачатку, Віктар Рыгоравіч, нашым чытачам хацелася б ведаць хоць бы кароткую характарыстыку вашай арганізацыі, пра мэты і задачы яе дзейнасці.**

— Ахвотна раскажу. «Мінскаблплодаагароднінагас», які я ўзначальваю больш трох гадоў, з'яўляецца дзяржаўна - кааператыўным аграрна - прамысловым аб'яднаннем па вытворчасці, нарыхтоўцы, захоўванню, перапрацоўцы і гандлю садавінна - агародніннай прадукцыяй і бульбай. Створана яно ў лютым 1989 года. Хоць сфера і геаграфія яго дзейнасці шырокія, але канкрэтная задача — забеспячэнне прадукцыяй у свежым выглядзе насельніцтва гарадоў і райцэнтраў вобласці, а таксама пастаўка сыравіны кансервавым заводам, яе перапрацоўка і рэалізацыя праз гандлёвую рознічную сетку.

У наша аб'яднанне ўваходзяць 14 калгасаў, 5 саўгасаў агародніннага напрамку, 6 гандлёва-нарыхтоўчых прадпрыемстваў, 7 перапрацоўчых заводаў, іншыя прадпрыемствы.

**— Зразумела, каб было чым гандляваць, што перапрацоўваць, трэба перш-наперш вырасціць, сабраць ураджай.**

— На душу гарадскога насельніцтва вобласці (апрача г. Мінска) прыпадае 80 кілаграмаў прадукцыі з нашага агарода, што, зразумела, зусім недастаткова. І калі забяспечваецца поўная патрэбнасць спажыўцоў ранняй і позняй капустай, морквай, сталовымі буракамі, зялённымі культурамі, то такіх неабходных кожнаму з нас свежых агуркоў і памідораў не хапае.

**— Але ж цяпер людзі, асабліва гараджане, пацягнуліся да зямлі. Сваёй агароднінай яны і запоўняць гэты вакуум.**

— Усё гэта нібыта і так. Але наша аб'яднанне бачыць сваю задачу не толькі ў развіцці грамадскага агародніцтва і садоўніцтва, а і хутчэйшым станаўленні іх, у насельніцтва — на прысядзібных, садовых участках, у сялянскіх і фермерскіх гаспадарках. Менавіта з такой мэтай мы штогод усё больш прадаём насення агародніных і саджанцаў пладова-ягадных культур, нашы спецыялісты даюць аматарам неабходныя кансультацыі, аказваюць ім іншую практычную дапамогу. Вось у чым таксама бачым вырашэнне важнай праблемы.

І гэта вельмі правільна, тут усё ўзаемазвязана. Калі будзе падсечаны пад корань грамадскі сектар, то і прыватны без нашай пастаяннай дапамогі наўрад ці зможа стаць моцна на ногі.

**— Атрымліваецца нейкі парадокс. Свежая, вітамінная прадукцыя карыстаецца пастаянным і шырокім попытам, вельмі патрэбна людзям, а з'яўляецца вострым дэфіцытам. Чаму? Як гэта можна растлумачыць?**

— У вытворчасці агародніны вырошчванне тых жа агуркоў і памідораў заўсёды было вузкім месцам. Асноўная прычына тут — нізкая забяспечанасць гаспадарак зімовымі абагравальнымі цяпліцамі. Здавалася б, расшырай тыя, што ёсць, будуй новыя, колькі трэба, і завальвай прылаўкі магазінаў тымі ж свежанькімі агурочкамі і памідорчыкамі. Вось і ўся праблема.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

# РОЗГАЛАС

## НЕ ДАДЗІМ СЯБЕ ЗАБЫЦЬ

З распадам Савета эканамічнай узаемадапамогі Мінскі трактарны завод страціў у былых сацыялістычных краінах шмат пакупнікоў машын маркі «Беларусь».

Вось чаму калектыў прадпрыемства шукае і знаходзіць у гэтым рэгіёне новых партнёраў. У Германіі, напрыклад, створана акцыянернае таварыства «Белімпэкс Хандэльс», у якім асноўны капітал належыць МТЗ. Заключаны кантракт з фірмай «Пронар» аб зборцы на яе вытворчых плошчах і продажы трактараў «Беларусь» у Польшчы. Амаль 17 гадоў прадукцыя прадпрыемства адсутнічала на рынку збыту ў Чылі, але тут яе не забылі і зараз купляюць з вялікай ахвотай. Наладжваецца таксама супрацоўніцтва з фірмамі Бразіліі, Аргенціны, Парагвая і Уругвая. А фермерам ЗША толькі ў гэтым годзе было прададзена 2.750 трактараў «Беларусь».

**А. ПРАЦЬКО.**

## РАЗВІТАЛІСЯ З БЯРОЗАВЫМ ВЕНІКАМ

ПІНСК. **(С. Шапіра).** Сапраўдны байкот лазням аб'явілі пінскія пенсіянеры. І зусім не таму, што яны разлюбілі парыльна-венікавую працэдуру. Прычына іншая. Гэтая жыццёва неабходная паслуга стала для большасці гараджан пенсіённага ўзросту дарагой раскошай. І калі яшчэ месяц назад пенсіянеры карысталіся 50-працэнтнай скідкай, то цяпер і гэтая льгота адменена, а плата падскочыла больш чым у 2,5 раза. Як сумна жартуюць уладальнікі пенсіённых кніжак: нядоўга музыка іграла. Ненадоўга хапіла ў кіраўніцтва жыллёва-камунальнай гаспадаркі горада міласэрнасці да сваіх састарэлых суграмадзян, у якіх 150 рублёў на лазневы камфорт яўна не ўпісваюцца ў месячны бюджэт.

## БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦТВА Ў ЛОДЗІ

10 лістапада ў Лодзі адкрываецца пяцідзённы фестываль беларускага мастацтва, арганізаваны па ініцыятыве часопіса «Мастацтва» пры фінансавай падтрымцы дабрачыннага фонду «Дзеці Чарнобыля», Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», Міжнароднай асацыяцыі гуманітарнага супрацоўніцтва і фірмы «Лодзія».

На сцэне Лодзінскага дома культуры пройдуць канцэрты з удзелам В. Скарабагатага, фальклорнага ансамбля «Ліцвіны», Касі Камоцкай, рок-гурта «Крама», будуць паказаны спектакль «Камедыя» Альтэрнатыўнага тэатра, фільмы студый «Арцель Ф» і «Фаба С», выставы мастакоў-графікаў майстроў творчай фатаграфіі. Фестываль стане першай падобнага роду акцыяй за граніцай, у падрыхтоўцы якой не ўдзельнічалі афіцыяльныя структуры.

**РІД.**

## Зварот генеральнага сакратара ААН Бутраса Галі з выпадку Дня правоў чалавека

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

наша рэакцыя на масавыя парушэнні правоў чалавека. Існуючы механізм барацьбы за правы чалавека набірае абароты. Цяпер працуюць спецыяльныя сесіі Камісіі па правах чалавека. Групы экспертаў накіраваны на месцы. Разглядаецца пытанне аб увядзенні персанальнай крымінальнай адказнасці за парушэнні правоў чалавека.

Другім крытэрыем з'яўляецца наша разуменне ўзаемаадносін паміж развіццём і правамі чалавека. Поўнае ўсведамленне чалавечай годнасці падразумявае не толькі недапушчальнасць катаванняў, але і недапушчальнасць голаду. Яно падразумявае права голасу, свабоду веравызнання і права на адукацыю. Яно падразумявае права карыстацца ўсімі правамі без дыскрымінацыі. Сапраўднае развіццё патрабуе цвёрдых асноў дэмакратыі і ўдзелу ўсёй грамадскасці.

Людзі ва ўсім свеце ўскладаюць вялікія надзеі на Арганізацыю Аб'яднаных Нацый як сродак абароны правоў чалавека. Я ўпэўнены, што мы апраўдаем іх спадзяванні. Здзяйсненне векавой мары аб свабодзе, справядлівасці і годнасці не за гарамі.

**Прадстаўніцтва ААН у Беларусі — БЕЛІНФАРМ.**



Унікальным медыцынскім абсталяваннем — дзвюма лазернымі ўстаноўкамі коштам у дзесяткі мільёнаў рублёў — папоўніўся лазерны афтальмалагічны цэнтр 10-й гарадской клінічнай бальніцы г. Мінска. Перадаў іх у якасці гуманітарнай дапамогі праз Беларускі экзархат ордэн іанітаў з Германіі. Калектыў цэнтра атрымаў магчымасць на больш высокім узроўні праводзіць абследаванні сваіх пацыентаў. А іх тут штогод — каля 20 тысяч. З дапамогай звышадчувальнай сучаснай тэхнікі невялікі калектыў з сямі чалавек выяўляе такія цяжкія захворванні, як глаўкома, катаракта, адслаенне сятчаткі, розныя новаўтварэнні, і нярэдка паспяхова іх вылечвае.

НА ЗДЫМКУ: лазернае лячэнне праводзіць урач-афтальмолаг Андрэй САВІЧ.

Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА, (БЕЛІНФАРМ).

# КДБ—ГУПВ: узаемадзеянне расшыраецца

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

ным упраўленні пагранвойск, такога маштабу сумесная аперацыя праведзена ўпершыню. Падобна, упершыню не толькі ў рэспубліцы, але і ў СНД.

Прадстаўнікі афра-азіяцкага рэгіёна і раней неаднаразова рабілі спробы нелегальнага пранікнення ў Заходнюю Еўропу праз краіны СНД, у тым ліку — і праз Беларусь. Сёлета пагранічнікамі і супрацоўнікамі Камітэта дзяржбяспекі спынена ўжо каля двухсот такіх спроб. Як правіла, групы складаюцца з 7—12 чалавек. У пошуках лепшай долі грамадзяне Пакістана, Індыі, Шры Ланкі гатовы выкласці немалыя грошы, каб трапіць у абетаваны «заходні рай».

Нашым спецслужбам, напэўна, вядома, што на тэрыторыі былога СССР існуе некалькі каналаў нелегальнай пераправкі людзей. Сярод іх — Тбілісі, Вільнюс, Кіеў. «Кіруючы цэнтр» знаходзіцца ў Маскве. У гэтых структурах ёсць свайго роду спецыялізацыя, строгае раздзяленне абавязкаў. Адны займаюцца камплектаваннем груп, іншыя прапіхваюць іх праз кантрольна-прапускныя пункты і аэрапорты. Кожны, хто жадае трапіць з Азіі ў Еўропу, выкладвае за гэта 12 тысяч долараў.

Праведзеныя ў апошні час КДБ і ГУПВ сумесныя аперацыі наглядна сведчаць аб эфектыўнасці цеснага ўзаемадзеяння гэтых двух ведамстваў. У выніку ў даход дзяржавы пайшлі мільёны рублёў.

Канкрэтны прыклад гэтага ўзаемадзеяння — затрыманне ў маі гэтага года сумесна з польскімі пагранічнікамі групы пакістанцаў, якія спрабавалі прарвацца праз нашу граніцу ў Польшчу. Паспяхова закончылася і яшчэ адна сумесная аперацыя — канфіскацыя ў Гродна ста чатырнаццаці кантрабандных абразоў на суму паўтара мільёна рублёў.

У апошні час спробы нелегальна пераправіць праз граніцу людзей ці кантрабанду пачасціліся. Так што перадышкі ў рабоце ў нашых спецслужбаў не прадбачыцца.

**Валерый МАНЮЦІН, ваенны журналіст.**

# «Не трэба складваць усе яйкі ў адзін кошык»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

мадства ў будучым. І як мы будзем ставіцца да маленькай мадэлі, такой будзе ў перспектыве і вялікая. Дзе я бачу свабодныя зоны? У першую чаргу, у прыгранічных раёнах Брэсцкай і Гродзенскай абласцей. Знойдуцца, канешне, некалькі раёнаў і гарадоў у Беларусі, якія пры адпаведных умовах могуцьператварыцца ў свабодныя зоны. І толькі потым можна будзе гаварыць, напрыклад, пра вобласці, усю Беларусь. Патрэбен не адзін год.

Галоўнае — не захапляцца звычайным для нас «манілаўскім» падыходам да справы. Кітай вызначаецца рэальнай пастаноўкай задач. Напрыклад, цяпер асноўная задача там — вывад краіны на ўзровень сярэднеразвітых краін свету да сярэдзіны XXI стагоддзя. Думаю, што гэта задача будзе выканана і перавыканана. Нашы ж праграмы «500 дзён» і падобныя на яе выклікалі і выклікаюць там недавер і іранічны скепсіс. Там робяць стаўку толькі на ўласныя сілы. Свая палітыка, свая мадэль эканомікі, свая спецыфіка. І менавіта гэта ўпэўненасць ва ўласных сілах прываблівае ў Кітай дзесяткі мільярдаў замежных інвестыцый. Стогны аб гуманітарнай і іншай дапамозе тут не ў пашане.

**— Вы былі ў Кітаі ў якасці кіраўніка дзяржаўнай дэлегацыі нашай рэспублікі. Галоўная мэта вашай паездкі?**

— Перш за ўсё падпісаць пагадненне ў гуманітарнай галіне, завязаць прамыя кантакты дзвюх краін у культуры, адукацыі, ахове здароўя, спорце, выдавецкай справе, друку, радыё, тэлебачанні, кінематаграфіі. Усе задачы былі выкананы. Для гэтага наша дэлегацыя сустракалася з прадстаўнікамі Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў, кіраўнікамі сфер адукацыі, культуры, іншых. Былі ў Пекінскім універсітэце і ў многіх іншых навучальных і культурных цэнтрах краіны.

**— Мы цяпер пераглядаем свае адносіны да многіх рэчаў, у тым ліку і да адукацыі. Вы ў сваім нядаўнім выступленні сказалі, што «дзяржаўная кішэнь — не бяздонная» і трэба дыферэнцыравана фінансаваць розныя ступені адукацыі. Мы можам тут нешта пераняць у Кітая?**

— У Кітаі больш жорстка акрэслена палітыка прыярытэтаў у адукацыі, як і ва ўсім іншым. Прыкладам можа служыць праграма 100 ВНУ, якія з'яўляюцца стрыжнем адукацыйнай палітыкі Кітая і адпаведна, канешне, лепш фінансуюцца. Але і тут ёсць той мінімум, які падтрымліваецца на дзяржаўным узроўні, усё астатняе пераведзена на пазабюджэтныя сродкі фінансавання.

Кітайская адукацыя зараз больш увагі ўдзяляе еўрапейскім мовам — англійскай, французскай і інш. У кітайскіх ВНУ традыцыйна моцны культаралагічны цыкл вучэбных праграм. А што датычыцца ўзроўню ВНУ і ўвогуле адукацыі ў свабодных зонах і па-за імі, то тут вельмі вялікая розніца на карысць першых. Эканоміка, як вядома, з'яўляецца базісам.

**— У такім разе, ці можна сфармуляваць нейкі эканамічны каэфіцыент акупляльнасці гэтай вашай паездкі, што яна канкрэтна прынясе нашай рэспубліцы ў бліжэйшым будучым?**

— Аб акупляльнасці гаварыць пакуль што рана. Пагадненнямі ў гуманітарнай сферы адразу грошай не заробіш. Але тое, што Кітай становіцца для нас бліжэй ва ўсіх адносінах, у тым ліку і ў эканамічных — гэта адназначна. І ў гэтым акупляльнасць такіх паездак.

**— Дарэчы, аб бізнесе. Амаль кожны шосты жыхар рэспублікі ходзіць у кітайскім пухавіку. Адзіночкі-камерсанты з Беларусі едуць у Кітай і мяняюць адзін шынель на два пухавікі. Як вы думаеце, што перашкаджае нашым кіраўнікам абмяняць шынялі якой-небудзь расфарміраванай на тэрыторыі рэспублікі дывізіі на тыя ж пухавікі і такім чынам узняць свой прэстыж?**

— Агаворымся адразу, што гэта не мая сфера, але думаю, калі правільна падысці да справы, то можна заваліць рэспубліку і пухавікамі, і іншымі кітайскімі рэчамі шырокага ўжытку. Мяркую, пры больш поўным уступленні рэспублікі ў рыначныя адносіны гэтыя пытанні будуць вырашацца прасцей і хутчэй.

**— Кітай, можна сказаць, уступіў у рынак ужо некалькі гадоў назад. І тым не менш зведвае ідэалагічную падтрымку «кіруючай» сілы грамадства.**

— Магу сказаць, краіна дэідэалагізуецца. Там цяпер няма крыклівых лозунгаў і кампанейшчыны, а ў партыі хапіла розуму своечасова адмовіцца ад таго багажу, які перашкаджаў развіццю грамадства. Я думаю, поспех Кітая абумоўлены і тым, што там «наеліся» рэвалюцый і выдатна разумеюць: без рацыянальнага, узважанага падыходу да сусветных законаў эканамічнага развіцця проста не выжыць.

**— Пасля вашай паездкі ў Германію вы едзеце ў Кітай, наш прэм'ер — у Паўднёвую Карэю. Гэта што — змена прыярытэтаў?**

— Не. Самыя буйныя кантакты ў нас з еўрапейскімі краінамі, з той жа Германіяй. Мы збіраемся ўступаць у Еўрапейскае супольніцтва, а не ў Садружнасць развітых краін Усходу.

І ўсё ж пры гэтым не трэба складваць усе яйкі ў адзін кошык. Шмат чаму трэба вучыцца ў Кітая, той жа Паўднёвай Карэі. Акрамя таго, мы для іх па свайму геапалітычнаму становішчу можам стаць мостам у Еўропу, яны для нас — мостам на Усход. Гэтага не ўлічваць проста нельга.

**— Міхаіл Іванавіч, а ці не апярэджваюць нас у гэтым іншыя рэспублікі былога Саюза, у якіх таксама неблагое геапалітычнае становішча?**

— Кітая хопіць на ўсіх. Зараз туды, сапраўды, накіроўваецца шмат візіцёраў з іншых рэспублік СНД, з Расіі плануецца вялікі візіт. Але мы свой шанц не ўпусцілі. У Кітаі цяпер ведаюць: Беларусь у цэнтры Еўропы і яе значны эканамічны патэнцыял гатоў супрацоўнічаць з кітайскім. Там ведаюць нашы трактары «Беларусь», БелАЗы, іншую беларускую прадукцыю, якая цікавіць кітайцаў. Думаю, з адкрыццём авіяліній праз Хабараўск і Новасібірск гэта знаёмства будзе больш плённым, як для кітайцаў, так і для нас.

**— Стандартнае журналісцкае пытанне — што найбольш уразіла ў Кітаі, акрамя свабодных зон?**

— Жаданне не паўтараць чужых памылак, у тым ліку і нашых. Яны глядзяць расійскі канал, Сі-эн-эн, канал «Азія». Кітай вучыцца, і, трэба сказаць, гэта ў яго вельмі няблага атрымліваецца.

**Гутарыў Аляксандр КОКТЫШ.**

## АСТРАНАМІЧНЫ КАЛЯНДАР

# КАЛІ МЕСЯЦ ЧЫРВОНЫ...

У ноч з 9 па 10 снежня ў сузор'і Цяльца адбудзецца поўнае зацьменне Месяца, якое можна будзе назіраць на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Першае зацьменне Месяца было зарэгістравана яшчэ ў старажытна-кітайскіх летапісах (1136 г. да н. э.) Наступныя тры апісаў у сваёй славутай працы «Альмагест» выдатны старажытнагрэчаскі астраном Клаўдзій Пталамей. Пазней жрацы і астролагі навучыліся прадказваць сонечныя і месячныя зацьменні, хоць і не ведалі сапраўдных прычын гэтых з'яў. Не выпадкова ў большасці людзей яны выклікалі прымхлівы жах, тым больш, што дыск Месяца часта станавіўся чырвоным, нібы наліваўся крывёю. Яны ўспрымалі зацьменне як нападзенне страшыдлаў або злых духаў на Месяц (які ў язычнікаў таксама лічыўся бажаством), а ў выніку яго раненне або нават забойства. А ў час пашырэння хрысціянскай рэлігіі распаўсюджваліся чуткі аб тым, што гэта Бог нагадвае грэшнікам аб злачынстве Каіна, старэйшага сына Адама і Евы, які забіў свайго брата Авеля.

Зразумела, што сёння такое тлумачэнне не задавальняе нават царкву, якая заклікае «ісці ў нагу з навукай». Яшчэ ў IV стагоддзі высветлілася, што строгая заканамернасць зацьменняў вынікае з руху Месяца вакол Зямлі і Зямлі вакол Сонца. Вось чаму іншы раз Месяц трапляе ў цень, які адкідвае наша планета. Праламляючыся і часткова аслабаняючыся ў зямной атмасферы, сонечныя промні набываюць чырванаватае адценне і надаюць месячнаму дыску незвычайны колер. Як бачыце, веданне фізікі і астраноміі, а таксама элементарнай матэматыкі дазваляе не са страхам, а з цікавасцю чакаць новага зацьмення.

Між іншым В. Банькоўскі і А. Шлега, якія прэтэндуюць на ролю сучасных астролагаў, у адной папулярнай беларускай газеце яшчэ ў мінулым годзе са спасылкамі на авестыйскае вучэнне раілі «ў дні зацьмення не распачынаць новых спраў, не есці жывёльную ежу, арэхі, семкі, яйкі... А за 20 хвілін да пачатку зацьмення прыняць кантрасны душ, каб адмыць дурныя звычкі, комплексы, хваробы духу і цела...»

Карысныя парады, нічога не скажаш, асабліва наконт ежы ў наш час. І халодны душ, сапраўды, прыняць не пашкодзіць аўтарам, бо ён вельмі заспакойвае нервы. А то і самі напужаныя, і чытачоў палохаюць.

Спяшаюся вас супакоіць: нічога страшнага і на гэты раз не здарыцца. Зацьменне Месяца, сцвярджаюць вучоныя, не можа аказаць ніякага адмоўнага ўздзеяння на здаровага і граматнага (гэта таксама важна) чалавека. Так што, калі пашанцуе на надвор'е, паглядзіце самі і пакажыце гэтую цікавую з'яву сваім дзецям і ўнукам — бо здараецца падобнае не вельмі часта. Ну, а аматары астраноміі змогуць правесці свае назіранні.

Такім чынам, Месяц вас чакае 10 снежня з нуля гадзін да 3 гадзін 30 хвілін мясцовага часу. Найбольшая фаза зацьмення — з палавіны другой да дзвюх гадзін ночы.

**Уладзімір ЛАРЫЁНАЎ, астраном.**

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

✱ З нагоды гадавіны падпісання ў Белавежскай пушчы пагаднення аб стварэнні СНД міністр замежных спраў Расіі Козыраў адзначыў, што гэта дазволіла пазбегнуць крывавага распаду Саюза. Паводле яго слоў, стварэнне СНД было перамогай, бо спыніла спаўзанне да югаслаўскага варыянта развіцця падзей у СССР.

**✱ 16 снежня ў Маскве пачнуцца расійска-японскія перагаворы па Курыльскіх астравах. Яны будуць весціся на ўзроўні намеснікаў міністраў замежных спраў.**

### «БІ-БІ-СІ»

✱ Ізраільскія ваенныя акружылі сектар Газа, пасля таго як там былі забіты палесцінцамі тры ізраільскія ваеннаслужачыя. Палесцінцам забаронена пакідаць межы сектара Газа.

**✱ Першая буйная партыя дэпартаваных з Германіі румын прыбыла ў Бухарэст. У большасці гэта цыганы. Каля 40 тысяч грамадзян Румыніі будуць выселены з Германіі.**

### «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

✱ Кітайскае кіраўніцтва хоча яшчэ да перадачы яму ў 1977 годзе брытанскай калоніі Ганконга вызначаць яе палітыку. Пекін імкнецца блакіраваць усе важныя рашэнні ў Ганконгу, пагражае ануляваць у будучым усе яго дагаворы, якія былі заключаны без згоды Кітая. Ён ідзе на абвастрэнне адносін з Францыяй і ЗША, якія прадалі ваенныя самалёты Тайваню.

**✱ У Італіі буйнамаштабная барацьба супраць мафіі складваецца драматычна для яе ўдзельнікаў. У Палерма скончыў жыццё самагубствам генеральны пракурор горада Сеньёрына, які вёў працэс супраць мафіі. У час працэсу адзін з мафіёзі прызнаўся, што Сеньёрына супрацоўнічаў з «коза-нострай». Пасля гэтага генеральны пракурор застрэліўся. Яго самагубства — трэцяя смерць за апошнія два тыдні макрапрацэсу над мафіяй.**

✱ У часопісе «Шпігель» надрукаваны артыкул аб лёсе некаторых нямецкіх дабрачынных акцый для чарнобыльскіх дзяцей. Старшакласнікі з горада Майнца былі вельмі здзіўлены, калі да іх прыехалі модна апранутыя, у золаце дзеці нібыта з Гомеля. Выглядалі яны цудоўна. Потым немцы даведаліся, што прыехаўшыя на два тыдні зусім не чарнобыльцы. Нямецкія журналісты пабывалі дома ў адной з юных «гамяльчанак». Жыве яна ў Маскве ў шыкоўнай кватэры, абсталяванай усім неабходным, у сям'і п'юць англійскае віскі, ядуць французскія цукеркі. У другі нямецкі горад пад выглядам ахвяр Чарнобыля прыехалі дзеці маскоўскіх прафсаюзных чыноўнікаў, бізнесменаў, якія маюць дачыненне да Пятроўскага пасажа, буйнога ўнівермага Масквы, дзе гандлююць пераважна за валюту. Гэтыя «дзеці Чарнобыля» прывезлі салідныя пачкі нямецкіх марак і долараў. Абураныя немцы накіравалі ў Маскву пратэст.

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

**✱ ЗША гатовы прадаставіць Украіне дапамогу і гарантыі ў дэмантажы ядзернай зброі.**

✱ У Маскве пад эгідай Міжнароднай арганізацыі грамадзянскай авіяцыі пачалося расследаванне абставін знішчэння карэйскага боінга ў 1983 годзе. У ім прымаюць удзел прадстаўнікі Японіі, ЗША, Паўднёвай Карэі. Апошнія зацікаўлены абнародаваць усе абставіны гэтай трагедыі.

**✱ У Самалі прыбыў спецыяльны пасланнік прэзідэнта ЗША Р. Оуклі. Ён сустрэўся з лідэрамі ваюючых груповак і растлумачыў, што адбудзецца ў краіне пасля высадкі ўзброеных сіл ЗША. Каля 28 тысяч ваеннаслужачых прымуць удзел у гэтай аперацыі.**

## ТАЙМ-АУТ

### НЕ ЎСЁ РАДАСЦЬ...

**У Мінску завяршыўся другі тур спаборніцтваў Балтыйскай гандбольнай лігі. Узяўшы верх у апошняй сустрэчы над сваімі асноўнымі канкурэнтамі з каўнаскага «Гранітаса» — 25:22, у турніры ўпэўнена лідзіруе мінскі клуб СКА-1 — 20 ачкоў з 20 магчымых.**

**А вось землякі-хакеісты па-ранейшаму нас не радуюць. Пры вельмі слабай гульні і абуральных паводзінах сталічных балельшчыкаў мінскае «Дынама» ў двух апошніх турах уступіла — 0:1 «Крылам Саветаў» з Масквы і 0:2 Васкрасенскаму «Хіміку». За 120 мінут гульні — ніводнай закінутай шайбы.**

## INTERFAX ІНТЭРФАКС

### ЗАТРЫМАНЫ ЗБРОЯ І НАРКОТЫКІ

7 снежня нарадам Харогскага пагранатрада на таджыкска-афганскай граніцы затрыманы аўтамабіль «Жыгулі» з трыма грамадзянамі Таджыкістана. Пры доглядзе ў іх канфіскавана аўтаматычная зброя, пістолет, боепрыпасы і 2 кг наркотыкаў. Пра гэта паведаміла прэс-служба пагранвойск Расіі.

Усяго за лістапад на таджыкска-афганскім участку граніцы канфіскавана каля 40 аўтаматаў, чатыры ручныя гранатамёты, каля 100 ручных гранат, больш як 27 тыс. адзінак розных боепрыпасаў і 5,5 кг наркотыкаў.

### ТУРКМЕНІСТАН БУДЗЕ МЕЦЬ СВОЙ МАНЕТНЫ ДВОР

Прэзідэнт Туркменістана даў указанне аб адкрыцці ў рэспубліцы Нацыянальнага манетнага двара і аб заключэнні неабходных кантрактаў з замежнымі фірмамі на пастаўку адпаведнага абсталявання. На прайшоўшым 7 снежня пасяджэнні Кабінета міністраў ён матываваў сваё рашэнне тым, што будучая нацыянальная валюта павінна мець высокую надзейнасць і стабільнасць.

Прэзідэнт заявіў, што нацыянальная валюта будзе ўведзена «ў сярэдзіне наступнага года» (раней супрацоўнік прэс-службы прэзідэнта заявіў «Інтэрфаксу», што ўвядзенне валюты магчымае ў сакавіку-красавіку). Прэзідэнт пацвердзіў, што курс аднаго «маната» будзе роўны аднаму долару, і запатрабаваў ад членаў урада распрацаваць праграму поўнага канверсавання валюты з моманту яе ўводу.

РЫНАК ЯК ЁН ЁСЦЬ

# «Берлінскі кірмаш»

## Ён адкрывае перад беларускімі вытворцамі тавараў вялікія магчымасці

**Берлін стагоддзямі быў горадам кірмашоў. Пасля падзення так званай «берлінскай сцяны», аб'яднання краіны яго роля як эканамічнага і гандлёвага цэнтра ўзрасла шматразова. Як, дарэчы, актыўнасць і поле дзейнасці вядомага на Захадзе «Берлінскага кірмашу» і яго структур. Сёлета створана яшчэ адна такая структура — замежнае прадстаўніцтва для краін Балтыі і Беларусі з цэнтрам у Каўнасе. Як было заяўлена на нядаўняй прэзентацыі новай гандлёвай «адзінкі», і само прадстаўніцтва, і ўвесь Берлінскі выставачна-кірмашовы кангрэс (ВКК) будуць садзейнічаць эканамічнай інтэграцыі краін еўрапейскага кантынента. У гэтым плане не была забыта і Беларусь.**

Аптымізм выказаных думак і меркаванняў, аднак, прымушае задумацца. Над чым — вядома: становішча беларускай прамысловасці даволі хісткае, сацыяльна-эканамічныя прагнозы самыя змрочныя. Не такія ўжо светлыя перспектывы малююць і некаторыя нашы дзяржаўныя дзеячы, калі пераканаўча заяўляюць: у Еўропе нас не чакаюць, а калі Беларусь і ўвойдзе ў агульнаеўрапейскую эканамічную сям'ю, дык гэта, маўляў, адбудзецца не раней чым праз 25—30 гадоў. Асаблівай дапамогі чакаць не след, трэба разлічваць толькі на ўласныя сілы. Прагнозы, магчыма, у нечым і дакладныя. Але...

Кіраўнік замежных прадстаўніцтваў Берлінскага выставачна-кірмашовага кангрэса Петра Каітц, у прыватнасці, адзначыла, што падпісаны пэўныя дакументы аб Еўрапейскай эканамічнай прасторы і што такі крок дапускае магчымасць пашырэння Еўрапейскага супольніцтва за кошт уваходжання дадатковых краін-удзельніц — гэта можа стаць рэальнасцю ў зусім недалёкай будучыні. Ва ўсякім разе ёсць пагадненне па дагаворы аб асацыіраваным членстве паміж Еўрапейскім супольніцтвам і Венгрыяй, Польшчай і ЧСФР — падзея немалаважная, а для нас, беларусаў, інфармацыя для роздуму. Такія вось дэталі вылучаліся ў канве прайшоўшай сустрэчы паміж прадстаўнікамі кіраўніцтва «Берлінскага кірмашу» і беларускага прадпрымальніцтва.

Хапала і іншых адметных момантаў, самых рознапланавых. У Германіі, напрыклад, вельмі спадзяюцца, што Берлін стане месцам правядзення Алімпійскіх гульняў 2000 года. Рашэнне ж аб гэтым будзе прымацца толькі праз год. Можа, алімпійскія багі і паспрыяюць станоўчаму рашэнню, магчыма, яно ў нечым будзе нават і справядлівым. «Берлінскі кірмаш», са свайго боку, таксама прадугледзеў развіццё сітуацыі — магчымае будаўніцтва крытых збудаванняў агульнай плошчай 180 тысяч кв. м, якія потым могуць быць выкарыстаны і для мэт алімпіяды.

Прыведзеная лічба сама па сабе характарызуе магчымасці Берлінскага ВКК. Не маючы фізічнай магчымасці пералічыць увесь спектр яго дзейнасці, прывядзём толькі адзін прыклад. Сёлетнім летам у Берліне адбылася міжнародная выстаўка авіяцыйнай і касмічнай тэхнікі «ІЛА-92». Яна дзейнічала ў міжнародным аэрапорце «Берлін-Шонефельд» на плошчы 242 тыс. кв. м. 280 тысяч наведвальнікаў і 500 удзельнікаў з 23 краін, у тым ліку з Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, прынялі ўдзел у гэтай гандлёвай прэм'еры. На жаль, нікога з Беларусі там не было. Ці то адпаведнай тэхнікі не вырабляем, ці то па нейкай іншай прычыне...

Таму, працягваючы аналогію, ёсць неабходнасць канстатаваць: калі такі зубр кірмашовага бізнесу, як Берлінскі ВКК, працягвае нам руку на сяброўскае супрацоўніцтва, то, відаць, адзін з алімпійскіх багоў — апякун гандлю Меркурый яўна пагадзіўся на асабістае спонсарства. Нам жа толькі застаецца выкарыстаць шанц, які прадставіўся.

— «Берлінскі кірмаш», як мы бачым, нацэлены на прапанову беларускаму боку многіх тавараў шырокага спажывання. Як надзейны партнёр ён можа дапамагчы і нашым айчынным бізнесменам у справе папулярызацыі іх тавараў і паслуг на заходнім рынку, — выказаў агульнае меркаванне прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Беларусі Уладзімір Карагін.

За чым затрымка? Як заўсёды, за «малым»: за тым, каб у нас сапраўды запрацавалі рыначныя механізмы, каб з'явіліся якасныя і канкурэнтаздольныя тавары айчыннай вытворчасці. Не думаю, што мы горшыя за іншых і захочам на будучых «берлінскіх кірмашах» у Беларусі выконваць ролю своеасаблівых «статыстаў», якія толькі купляюць. Трэба ж нешта і прадаваць...

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

# І ўсё ж Масква праслязілася...

### ЛУІС-АЛЬБЕРТА ПРЫЕДЗЕ Ў ГОРАД ЦУДАЎ...

На мінулым тыдні шчасліва закончыўся паказ любімага ўсімі народамі СНД тэлесерыяла «Багатыя таксама плачуць». Яго галоўная гераіня Марыяна ўжо пабывала ў Маскве, дзе яе радасна прымалі ўлюбёныя ў мексіканскую тэледзіву фанатычныя прыхільніцы.

Наступіла чарга і беспадобнага Луіса-Альберта. У снежні да нас прыедзе і ён, кумір эсэндэўскіх хатніх гаспадынь і работніц сферы бытавога абслугоўвання.

У жыцці артыста завуць Рахеліо Гера. Яму 56 гадоў. Жанаты ён ужо трэці раз, мае двух сыноў. Аднаму з іх пяць гадоў, другому — толькі пяць месяцаў. Гэтая пікантная акалічнасць выклікае асаблівую цікавасць да заморскага госця.

Акрамя таго, што пан Гера — артыст, ён яшчэ і танцоўшчык, спявак, а таксама мастак і скульптар. Словам, чалавек разнастайных талентаў, якія ён і хоча прадэманстраваць перад сваімі слухачкамі і глядачкамі.

Луіс-Альберта мае намер даць некалькі канцэртаў у спартыўным комплексе ЦСКА. З 28 па 30 снежня знакаміты акцёр запрашае багатых масквічоў і гасцей расійскай сталіцы ў гасцініцу «Космас», дзе будзе спяваць, танцаваць, расказваць пра сябе і дэманстраваць свае скульптуры. Абяцаюць таксама банкет у рэстаране гасцініцы.

Сустрэчы з Луісам-Альберта будуць праходзіць з 10 гадзін вечара да 4 раніцы. Цана ўваходнага білета на такі камерны канцэрт — усяго толькі 35 долараў, або прыкладна 17 тысяч нашых «драўляных».

### ...ЖЫХАРЫ ЯКОГА, АКАЗВАЕЦЦА, НЕ ЎМЕЮЦЬ СМЯЯЦЦА

Калі масквічам сказаць, што яны не патрыёты свайго горада, і амаль нічога пра яго не ведаюць, большасць успрыме гэта як абразу. І тым не менш многае з таго, аб чым напісалі мексіканскія журналісты па просьбе Луіса-Альберта пра Маскву перад яго паездкай у Расію, для гараджан было адкрыццём.

Ну, напрыклад, тое, што ў «белакаменнай» пражываюць 60 грамадзян па прозвішчы Ленін, 18 — носяць прозвішча Сталін. Ёсць нават жыхар з вельмі рэдкім прозвішчам — О. Затое Іванових 110 тысяч, Пятровых — 57 тысяч, Сідаравых — 25 тысяч.

Ламаносавых у Маскве і Падмаскоўі ўсяго трое, але затое поўных. Міхаілаў Васільевічаў. Аляксандраў Сяргеевічаў Пушкіных — аж 34. Прозвішча Мазепа з годнасцю носяць больш як 100 чалавек, праўда, яны не ўпэўнены, што з'яўляюцца нашчадкамі славутага ўкраінскага гетмана, хаця настойлівае пацвярджэнне гэтай акалічнасці на Украіне магло б даць пэўныя дывідэнды.

Шкада, але Пячорыным пашанцавала меней. Хаця ў Маскве іх роўна 100, з Грушніцкімі накладка выйшла. На ўсю «белакаменную», уявіце сабе, ніводнага. Што ж гэта за Пячорын без Грушніцкага? Несур'ёзна.

Акрамя чалавека па прозвішчы О., у Маскве пражываюць (па аднаму) прадстаўнікі такіх рэдкіх прозвішчаў, як Бяка, Выразкаў, Вышыня, Ева, Залатаябка, Задневумніца, Гарант, Хапаймуха, Шчыборшч, Непейпіва, Убейкабылін і іншых. Прозвішчы як прозвішчы. Ніхто не смяецца. Прывыклі і суседзі, і начальнікі. Мяркуючы па ўсім, і ваўчарамі не будуць абдзелены.

Навошта гэтыя даныя Луісу-Альберта? Відаць, для выступленняў рыхтуецца. Каб масквічоў насмяшыць.

### БАГАТЫХ ПРЫМУШАЮЦЬ ПЛАКАЦЬ

У Маскве багатыя плачуць таксама. Толькі вось па іншай прычыне, чым у Мексіцы.

У расійскай сталіцы набывае імпэт новы від злачынстваў. У лік патэнцыяльных ахвяр трапляюць практычна ўсе грамадзяне, якія змяшчаюць у газетах аб'явы аб куплі кватэр ці асобных дамоў.

Тэхналогія, як расказваюць у міліцыі, вельмі простая. Чалавеку, які даў аб'яву ў газету, званяць дадому і прапануюць кватэру за невысокую цану. Адначасова запрашаюць яго на агледзіны, дамаўляючыся, каб пакупнік адразу ўзяў з сабой грошы. Навошта, маўляў, адкладваць справу на доўгі час?

Як толькі кліент прыбывае на месца, небараку адразу звязваюць, грошы забіраюць, а самі знікаюць. Калі ж асцярожны пакупнік прыходзіць без грошай, гэта ўсё роўна справы не мяняе. Ён ужо на кручку ў рэкеціраў, і прытым — трывала! Багатым масквічам застаецца ў такім выпадку толькі адно — плакаць.

### ...А БЕДНЫЯ БЯСПЛАТНА ДЗЕЛЯЦЦА СЮЖЭТАМІ

Тэлестудыя «Астанкіна» перадавала ўжо аб тым, што ў Маскве ў маладой маці была ўкрадзена з каляскі паўтарамесячная дзяўчынка. Вядома і аб шчаслівым канцы гэтай крымінальнай гісторыі: немаўлятка знойдзена і вернута без мяжы радасным бацькам.

А вось і падрабязнасці. Зладзейкай аказалася зусім нармальная псіхічна 20-гадовая бежанка з Кіргізіі, якая пражывае ў Скопінскім раёне Разанскай вобласці. Сюды яна прыехала разам з мужам і іншымі роднымі. Пайшла яна на гэты ўчынак таму, што яе муж вельмі хацеў, каб у іх было дзіця. На жаль, маладая жонка задаволіць жаданне мужа не магла.

Сем месяцаў яна імітавала цяжарнасць. Потым, сказаўшы дома, што хоча паехаць на кансультацыю ў Маскву, выбралася ў няблізкую дарогу. Невядома, ці трапіла яна на прыём да ўрача — гэта цяпер не так проста. Патрэбны немалыя грошы, і самае галоўнае — маскоўская прапіска. Ні першага, ні другога ў няшчаснай жанчыны не было. Павандраваўшы па гарадскіх вуліцах, маладзіца ўбачыла ля магазіна ў мікрараёне Сабурава дзіцячую каляску. Раптоўная думка, што ўспыхнула ў яе галаве, не адступала.

Улучыўшы момант, жанчына выхапіла з каляскі маленькі скрутачак. І тут жа задала лататы. Дзе яна жыла тры дні — невядома. Але роўна праз гэты тэрмін з'явілася ў сваёй вёсцы і сказала, што роды адбыліся раптоўна.

Праз некалькі дзён у вёску прыехала міліцыя з Масквы. Зладзейку арыштавалі, а немаўлятка вярнулі ўзрадаваным бацькам.

Чым не сюжэт для новага тэлесерыяла? Са шчаслівым канцом...

**Яўгенія ЯРЦАВА.**

